# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 21 (2267)

21 мая 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


## НАМ ЗАСТАЛОСЯ СВЯТА



Пакуль будуць жывыя гэтыя людзі, якія 9 Мая пры ўзнагародах, усхваляваныя і ўрачыстыя, выходзяць на вуліцы ў нашых гарадах і вёсках, будзе існаваць і Дзень Перамогі. І для іх, якія здзейснілі сапраўды вялікі подзвіг, і для нас, маладзейшых, якія павінны помніць заўсёды: яны абаранялі сваю Радзіму, сваю зямлю, свой народ.

(Працяг фотарэпартажу на 4-й стар.).

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

# СВАЕ ЛЮДЗІ Ў НЬЮ-ЙОРКСКАЙ ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

### ЧАСТКА СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЯ

Каб не спадарыня Зора Кіпель, то, напэўна, у гэтай славутай на ўвесь свет бібліятэцы пабываць мне так і не давялося б. Але ж Зора Кіпель — наш чалавек, беларуска кожнай сваёй клетачкай, кожнай думкай і кожным учынкам, і таму, як прыязджае хто-небудзь з Бацькаўшчыны ў Нью-Йорк, яна кідае ўсе свае справы і становіцца добраахвотным гідам па бібліятэцы, з гонарам паказвае зборы беларускіх кніжак і перыёдыкі ў славянскім аддзеле, дзе яна доўгія гады намеснік загадчыка. Тут жа, у бібліятэцы, да выхаду на пенсію працаваў намеснікам загадчыка навуковага аддзела яе муж, доктар Вітаўт Кіпель. Бацькі дарослых дзяцей, якія нядаўна сталі дзедам і бабуляй, спадары Зора і Вітаўт — абодва вядомыя беларускія грамадскія дзеячы, абцяжараныя мноствам спраў — у нечым унікальная пара, шчаслівая пара. Баюся быць банальнай у разуменні і бачанні іхняга шчасця. І ўсё ж. За доўгія гады сумеснага жыцця, далёка не беспраблемнага, яны захавалі пачуцці пяшчотнай прыхільнасці і юначай улюбёнасці (калі ўсё ў тваім выбранніку ці выбранніцы здаецца прывабным і мілым сэрцу). Падтрымліваючы адзін аднаго, яны выгадавалі дзяцей, далі ім адукацыю (сын Юрка — дзіцячы доктар, дачка Алеся — адвакат), занялі самі даволі высокую прыступку ў амерыканскім грамадстве, дзякуючы толькі высокаму прафесіяналізму і глыбокім ведам. Акрамя ўсяго гэтага, з'яўляюцца тым інтэлектуальным ядром, вакол якога гуртуецца свядомая беларуская эміграцыя. Але спадар Вітаўт, хаця і вельмі моцны, энергічны чалавек, не будзь побач такога мяккага і інтэлігентнага сябра, сапраўднай саратніцы, магчыма, не сумеў бы ўтрымаць на сваіх плячах цяжар шматлікіх спраў і абавязкаў. Ды і спадарыня Зора (няхай прабачае яна мне смеласць гэтага сцвярджэння) без самаахвярнай падтрымкі мужа, якая, напэўна, грунтуецца на яго высокай свядомасці, паважлівых адносінах да яе як да асобы, не змагла б устаць упоравень з Вітаўтам, падняцца над бытам.

Адна дэталь. Ужо ў даволі сталым узросце спадарыня Зора вырашыла атрымаць дадаткова філалагічную адукацыю. (У свой час яна скончыла факультэт аналітычнай хіміі ў адным з універсітэтаў Бельгіі). Паступіла ў інстытут на факультэт параўнаўчай літаратуры, спецыялізавалася ў літаратуры сярэднявечча. Шмат даводзілася чытаць і па літаратуры, і па гісторыі. На лекцыі ж ездзіла пасля работы. Не трэба казаць, што гэта цяжка сямейнаму чалавеку. Звычайны класічны муж у такім выпадку што скажа жонцы? «Сядзі дома, нашто табе гэта?» Альбо: «Чаму гэта я з-за цябе буду пакутаваць?» Спадар Вітаўт Кіпель, да яго гонару, такога, напэўна, не гаварыў. Ён адвозіў на машыне жонку на заняткі, забіраў яе пасля, насіў кніжкі, дапамагаў рыхтавацца. Даволі дзіўная, заўважу, для савецкай жанчыны сітуацыя, амаль што неверагодная. Але я звярнула на яе ўвагу не з-за дробнай мяшчанскай цікаўнасці: маўляў, раскажу чытачу нешта такое інтымнае з жыцця вядомых людзей. Зусім не так.

Разважаючы над лёсам спадароў Кіпеляў, якія, безумоўна, самі па сабе неардынарныя асобы, прыкінула: а што атрымалася б з іх сям'і, жыві яны ўвесь час на Беларусі? Напэўна, Кіпеляў не было б. Амерыканскае грамадства, сам лад жыцця, пры якім чалавеку ўвесь час трэба вучыцца, бо адукацыя і веды прэстыжныя, вымагалі пастаяннага самаўдасканалення. Нізкі ж культурны ўзровень нашага грамадства, сама сістэма, якая не садзейнічае праяўленню асабістай ініцыятывы, зацікаўленасці чалавека ў выніках працы, наўрад ці далі б магчымасць рэалізаваць ім у такой меры свае здольнасці, патэнцыяльныя магчымасці на радзіме.

Мала прыемнасці аб гэтым пісаць, але ж мусіш, бо праўда, і ад яе не варта бегчы, таму што, не ўсвядоміўшы яе, доўга яшчэ не вылезем з духоўнай і эканамічнай багны.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**Пасля звароту Беларускага таварыства «Радзіма» разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі да замежных суайчыннікаў аб дапамозе мы часта чулі ад іх: «Чаму вы так позна загаварылі пра чарнобыльскую катастрофу? Чаму аж праз чатыры гады пасля выбуху?» — «Не ведалі, што гэта так трагічна і жудасна»,—звычайна даводзілася адказваць на падобныя пытанні. Аднак апакаліптычны вобраз Чарнобыля выразна бачылі тыя, хто стаяў тады ва ўладзе. Бачылі, разумелі, чым гэта пагражае, і цынічна хлусілі свайму народу, уводзілі ў зман сусветную грамадскасць: нічога страшнага — самі справімся.**

**Прапануемы ўвазе чытачоў артыкул з газеты «Известия» паказвае, як рабілася вялікая хлусня пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС у вышэйшых эшалонах улады.** **(Стар. 3).**

ВАКОЛ РЭФЕРЭНДУМУ

## ШТО СКАЖА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ?

Цэнтральная камісія па рэферэндуму зацвердзіла вынікі праверкі падпісных лістоў у падтрымку рэферэндуму і перадала сваё заключэнне ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. На пытанне: «Ці лічыце вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на аснове Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?», 446 061 грамадзянін Беларусі адказаў станоўча, тым самым падтрымаўшы ініцыятыўную групу. На самым пачатку камісія, зрабіўшы падлік, назвала сапраўднай лічбу 442 032 галасы. Потым па розных прычынах былі адсеяны яшчэ некалькі дзесяткаў тысяч подпісаў у выніку знойдзеных парушэнняў і недакладнасцей у прадстаўленых ёй спісах. Агулам прызнаны несапраўднымі больш 58 тысяч подпісаў.

Але і сабраных ініцыятыўнай групай больш 380 тысяч подпісаў у падтрымку рэферэндуму дастаткова, каб Вярхоўны Савет прыняў гэта да ведама і вызначыў час правядзення рэферэндуму. Якое рашэнне прымуць дэпутаты парламента?

АХВЯРЫ РЭПРЭСІЙ

## КОЖНЫ ДРУГІ

Кожны другі жыхар Беларусі быў знішчаны таталітарным рэжымам Сталіна.

Да такога вываду прыйшоў выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта Аляксандр Ганчароў.

Калі страты ў гады Вялікай Айчыннай вайны не выклікаюць сумненняў — у васьмімільённай рэспубліцы загінуў кожны чацвёрты яе жыхар, — то лічба 2,5 мільёна перш не называлася. Па словах Аляксандра Ганчарова, гэтыя даныя яму прадаставіла беларускае таварыства «Мартыралог».

Аднак вывады вучонага выклікалі пярэчанні тых асоб, якія займаюцца справамі рэабілітацыі.

УСХОД — ЗАХАД

## КАНЦЭПЦЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ІНТАРЭСАЎ

Новая грамадская арганізацыя — нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» створана ў Мінску. Яе заснавальнікамі выступілі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Булахаў, Яўгеній Глушкевіч, Леанід Радкевіч і іншыя, а таксама прадстаўнікі ўрада, прамысловага бізнесу, вучоныя, дыпламаты, журналісты.

Галоўная задача НЦСІ «Усход—Захад» — выпрацоўка канцэпцыі нацыянальных інтарэсаў і нацыянальнага выбару, устанаўленне на пастаяннай аснове эфектыўнага дыялога і ўзаемадзеяння паміж прадстаўнікамі дзяржаўных органаў і дзелавымі коламі Беларусі.

Прэзідэнтам НЦСІ «Усход—Захад» выбраны журналіст і палітолаг Анатоль Майсеня.

ДНІ ЭКАНОМІКІ

## БЕЛАРУСЬ У ЛЕЙПЦЫГУ

Мы выкарысталі прайшоўшыя ў Лейпцыгу Дні эканомікі Рэспублікі Беларусь, у ліку іншага, і для таго, каб абудзіць цікавасць германскіх прадпрымальнікаў да стварэння свабодных зон гандлю пад Мінскам, Брэстам і Гродкам. Так падвёў вынікі двухдзённага форуму дзелавых людзей дзвюх краін намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаіл Мясніковіч. Па яго словах, Брэст і Гродна падыходзяць для гэтых мэт, бо размешчаны недалёка ад польскай граніцы. Сувязь з Мінскам таксама зручная дзякуючы размешчанаму паблізу аэрапорту. Акрамя таго, гэтыя рэгіёны з'яўляюцца месцам канцэнтрацыі прамысловых прадпрыемстваў, што здольна прыцягнуць замежны капітал.

Арганізатары форуму — Усходні камітэт германскай эканомікі і Гандлёва-прамысловая палата Рэспублікі Беларусь — з задавальненнем успрынялі зацікаўленасць германскіх фірм у кантактах з беларускімі партнёрамі.

ПЕРШЫ КАМЕНЬ

## І Ў ЧЫЖОЎЦЫ БУДЗЕ ЦАРКВА

У дзень 9 Мая, калі сталіца святкавала гадавіну Перамогі, у Мінску, на ўзгорку ля Чыжоўскага вадасховішча, адбылася адметная ўрачыстасць: быў закладзены першы камень у фундамент царквы, якая тут пачынае будавацца. Храм узводзіцца ў гонар «святога вялікамучаніка і перамогаНосца Георгія з удзячнасцю госпаду Богу за дараваную перамогу і ў памяць усенароднага подзвігу ў Айчыннай вайне 1941—1945 г.г.».

Асвяціў добрую справу мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

На ўрачыстым богаслужэнні прысутнічаў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

*«На мой погляд, праблема паратунку нацыі знаходзіцца ў прамой залежнасці ад ступені нацыянальнай самасвядомасці. Таго паратунку не адбудзецца, калі нацыя будзе раздзелена, разрэзана, разламана на розныя па ментальнасці часткі. Калі адны з іх будуць захоўваць вернасць «сацыялістычнаму выбару», другія зробіцца прыхільнікамі чыста эканамічнага, камерцыйнага развіцця, грэбуючы нацыянальнай культурай, іншыя наогул пагрузяцца ў паняверцы, абыякавасці, апалітычнасці — хай будзе як-небудзь, абы без вайны. Тады мы доўга будзем мэнчыцца ў беднасці ды зайздросціць прыбалтам ці ўкраінцам, якія, вядома ж, зажывуць лепей за нас. Бо заслужылі тое перад людзьмі і Богам, не перастаючы, змагаліся за родную мову, нацыянальную культуру, адстойвалі дзяржаўнасць. А іхнія кіраўнікі, нават нядаўнія камуністы, найперш адчувалі сябе ўкраінцамі ці літоўцамі, а пасля ўжо партыйцамі ці нават высокімі наменклатуршчыкамі. У нас жа дагэтуль усё ішло наадварот. Баюся, што гэтак ідзе і дасюль...»*

*Васіль БЫКАЎ.*

У ЗОНЕ АДЧУЖЭННЯ

## ПАЖАР ПАТУШАНЫ

Тыднёвая сутычка з агнявой стыхіяй, што разбушавалася ў 30-кіламетровай зоне адчужэння, прылеглай да Гомеля, закончылася. Агонь знішчыў некалькі пакінутых вёсак, але за межы зоны не выйшаў. Па назіраннях паветранай разведкі, моцныя ачагі ўзгарання назіраюцца цяпер на ўкраінскай частцы зоны ў непасрэднай блізкасці ад Чарнобыльскай АЭС.

На беларускай тэрыторыі агонь утаймаваны больш чым на паўтары тысячах гектараў дзякуючы самааддачным дзеянням пажарных вобласці, спецыяльным падраздзяленням па барацьбе з лясных пажарамі Мінлесгаса, грамадзянскай абароны і дзвюх служб, што падключыліся да іх. У барацьбе з агнём прымалі ўдзел пажарныя часці Нараўлянскага, Рэчыцкага, Мазырскага, Калінкавіцкага раёнаў, Гомельскага авіятрада па ахове лясоў, пажарнікі-дэсантнікі якога лакалізавалі больш дзесятка ачагоў агню.

Аднак, як лічыць намеснік начальніка Гомельскага абласнога ўпраўлення пажарнай аховы Віктар Хрусталёў, маштабы таго, што здарылася, прымушаюць па-іншаму зірнуць на праблему пажарнай аховы 30-кіламетровай зоны адчужэння. Пры тушэнні буйных лясных пажараў звычайная воданалыўная тэхніка з яе невялікім запасам вады малаэфектыўная або і ўвогуле непрымянімая. Спецыяльнай жа, землярыйнай — экскаватараў, бульдозераў, трактараў з плугамі — было яўна недастаткова.

Акрамя таго, узнікненню шматлікіх ачагоў узгаранняў садзейнічала не столькі засушлівая вясна, колькі агульная бестурботнасць людзей. Перыметр зоны ахоўваецца слаба. Па ёй «гуляюць» не толькі бадзягі, марадзёры, але і рыбаловы, паляўнічыя, балазе, звяр'я і рыбы ў зоне дастаткова. Наведваюць родныя мясціны і людзі, вымушаныя пакінуць свае вёскі з-за высокага ўзроўню радыяцыі. І, як водзіцца, пасля непазбежных пікнікоў забываюць патушыць касцёр. А мяжа паміж зонай адчужэння і жылымі раёнамі, адзначаная няхай нават калючым дротам, для агню не перашкода...

Паводле даных Галоўгідрамета, павышэння радыяцыйнага фону ў сувязі з пажарамі ў зоне адчужэння на тэрыторыі Беларусі не назіралася. Аднак, як расказаў яго старшыня Юрый Пакумейка, некаторыя сродкі масавай інфармацыі рэспублікі ўсё ж паспяшаліся напалохаць сваіх чытачоў.

НАВУКА — СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ



**Праблему атрымання экалагічна чыстых «вітамінаў урадлівасці» паспяхова вырашаюць у Інстытуце генетыкі і цыталогіі Акадэміі навук рэспублікі. Творчы пошук вучоных накіраваны на стварэнне бактэрыяльных угнаенняў для асноўных сельскагаспадарчых культур. Адна з навінак лабараторыі, якую ўзначальвае доктар біялагічных навук прафесар Мікалай Троіцкі — рызафіл. Гэтае ўгнаенне паскарае рост і развіццё раслін, садзейнічае павышэнню ў іх утрымання бялкоў, вітамінаў, цукру, ахоўвае гароднінныя і зерневыя культуры ад захворванняў і дае значную прыбаўку ўраджаю. Стваральнікі рызафілу спадзяюцца, што ён атрымае прызнанне не толькі ў былых сельскагаспадарчых вытворцаў, але і ў дачнікаў.**

**НА ЗДЫМКУ: прафесар Мікалай ТРОІЦКІ ў мінскім парнікова-цяплічным камбінаце гутарыць з работніцай Зояй КУШНЕР.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ Першая група юнакоў — 110 чалавек, прызваных у армію, накіравана ў агульнаваўсковы Барысаўскі вучэбны цэнтр. Цяперашні прызыў у армію адрозніваецца тым, што службу хлопцы будуць праходзіць толькі ў Беларусі, выключаючы тых, хто сам пажадае служыць на флоце.

◆ Былы камандуючы войскамі былой Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік А. Кастэнка будзе адкамандзіраваны ў Маскву і прызначаны першым намеснікам міністра абароны СНД. Адначасова ён будзе выконваць абавязкі саветніка пры канцлеры Германіі Г. Колі на час вываду нашых войск з ФРГ.

◆ Пяцёра суддзяў Вярхоўнага суда Беларусі падалі ў суд на Мінскі гарвыканкам, які не выконвае закон аб статусе суддзяў і да гэтага часу не прадаставіў ім кватэры ў сталіцы. Заадно 5 разгневаных суддзяў прад'явілі іск і Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Беларусі, і ўраду Рэспублікі за бяздзейнасць. Справа разглядаецца ў народным судзе Маскоўскага раёна Мінска.

◆ Сем фірм, у іх ліку і іншаземныя, працуюць над макетамі будучых пашпартаў грамадзян Рэспублікі Беларусь. Як паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў, распрацоўка ўжо наближаецца да завяршэння, а некаторыя фірмы ўжо перадалі свае макеты ў Дзяржзнак.

◆ Савет Міністраў Беларусі выдзеліў 3 мільёны рублёў для правядзення дэталёвых разведвальных і доследна-эксплуатацыйных работ, звязаных са здабычай бурштыну. Спецыялісты акцыянернага таварыства «Геатрон», якое мае намер займацца прамысловай распрацоўкай бурштыну, прагназуе яго здабычу — 10 тон у год.

◆ Санкт-Пецярбург, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Таварыства літоўскай культуры і Мемарыял устанавілі памятны крыж на Левашоўскіх мемарыяльных могілках у Санкт-Пецярбургу ў памяць аб ахвярах сталінскага генацыду ў Беларусі і Літве.

ЖОДЗІНСКІ АСІЛАК



**Шаснаццаць тон лесу можа падняць новы пагрузчык «БелАЗ-78201», створаны калектывам Беларускага аўтамабільнага завода ў Жодзіне. Першая такая машына прызначана для Усць-Ілімскага лесапрамысловага комплексу. На заводзе ж ідзе зборка яшчэ шасці. Раней такія машыны закупляліся за мяжой.**

**НА ЗДЫМКУ: новы лесапагрузчык «БелАЗ-78201».**

## ЧАРНОБЫЛЬ: ВЯЛІКАЯ ХЛУСНЯ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

У Вярхоўным Савеце СССР мне давялося працаваць у парламенцкай камісіі па расследаванню дзеянняў службовых асоб у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Згодна са статусам камісія мела права запрасіць і атрымаць любыя дакументы. Амаль усе ведамствы — Міністэрства сярэдняга машынабудавання, Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства абароны, Дзяржкамгідрамет, іншыя са скрыпам, але ўсё ж прадастаўлялі неабходную засакрэчаную інфармацыю. І толькі Палітбюро ЦК КПСС не рэагавала на афіцыйныя запыты. Упэўнена, наўрад ці мы атрымалі б калі-небудзь гэтыя дакументы, калі б не жнівень 91-га.

Пасля Указа Б. Ельцына аб забароне камуністычнай партыі пачалася перадача яе архіваў, і мы нарэшце атрымалі сакрэтныя пратаколы пасяджэнняў аператыўнай групы Палітбюро ЦК КПСС па пытаннях, звязаных з ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якую ўзначальваў М. Рыжкоў. Але як ні прасілі нашы эксперты, дактары навук, каб у ксеракапіравальным бюро парламента зрабілі хаця б адну рабочую копію пратаколаў, ім было адмоўлена. Тады заяўку давялося напісаць мне як дэпутату. Але аказалася, што і для дэпутата зрабіць гэта таксама нельга. «Вета» налажыў нехта В. Пронін, які назваўся кансультантам другога сакрэтнага сектара ВС СССР. Яго начальнік з спецчасці Сакратарыята ВС СССР А. Бурко растлумачыў, што, маўляў, яны не маюць права даць дазволу ксеракапіраваць дакументы з грыфамі «сакрэтна» і «зусім сакрэтна» нават для парламенцкіх камісій. А каб атрымаць яго, трэба звярнуцца ў тую арганізацыю, якая і засакрэціла дакументы, з просьбай аб іх рассакрэчванні, і вось тады...

Нагадаю, гэта было пасля путчу, праз некалькі месяцаў. Ужо не было КПСС, а некаторыя члены Палітбюро абдумвалі жыццё ў «Матроскай цішыні». Але сакрэты гэтай арганізацыі строга ахоўвалі яе падручныя ў паміраючым парламенце краіны.

Чытаючы гэтыя унікальныя дакументы, думаю пра тое, што галоўны і самы страшны ізатоп, які вылецеў з горла рэактара, якраз і адсутнічае ў табліцы Мендзялеева. Гэта — хлусня-86. Падман такі ж глабальны, як глабальная сама катастрофа.

### ХЛУСНЯ № 1. АБ ПАРАЖЭННЯХ РАДЫЯЦЫЯЙ

Першае пасяджэнне аператыўнай групы Палітбюро адбылося 29 красавіка 1986 года. Недзе да сярэдзіны мая яна засядала штодзённа. (Гэта — да пытання аб тым, што ў кіраўніцтва, як запэўнівалі нас гадамі, не было інфармацыі. Зусім нядаўна, даючы інтэрв'ю Расійскаму тэлебачанню, Мікалай Рыжкоў амаль што кляўся, нібыта яны «тады мала што ведалі»).

Пачынаючы з 4 мая ў аператыўную групу ідзе паток паведамленняў аб шпіталізацыі насельніцтва.

«Сакрэтна. Пратакол № 5. 4 мая 1986 г. Прысутнічалі: члены Палітбюро ЦК КПСС тт. Рыжкоў М. І., Лігачоў Я. К., Варатнікоў У. І., Чэбрыкаў В. М., кандыдаты ў члены Палітбюро ЦК КПСС тт. Далгіх В. І., Сакалоў С. Л., сакратар ЦК КПСС Якаўлеў А. М., міністр унутраных спраў т. Уласаў А. В.

(...) Прыняць да ведама, што па стану на 4 мая ўсяго шпіталізавана 1 882 чалавекі. Агульная колькасць абследаваных дасягнула 38 тысяч чалавек.

Выяўлена паражоных прамянёвай хваробай рознай ступені складанасці 204 чалавекі, у тым ліку 64 дзіцяці. У цяжкім стане знаходзяцца 18 чалавек».

«Сакрэтна. Пратакол № 7. 6 мая 1986 года. Прысутнічалі: члены Палітбюро ЦК КПСС тт. Лігачоў Я. К., Чэбрыкаў В. М., кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС т. Далгіх В. І., сакратар ЦК КПСС т. Якаўлеў А. М.

(...) Прыняць да ведама паведамленне т. Шчэпіна (першы намеснік міністра аховы здароўя СССР. — **А. Я.**) аб тым, што па стану на 9.00 гадзін 6 мая колькасць шпіталізаваных склала 3 454 чалавекі. З іх на стацыянарным лячэнні знаходзяцца 2 600 чалавек, у тым ліку 471 дзіця».

«Сакрэтна. Пратакол № 8. 7 мая 1986 года. У пасяджэнні аператыўнай групы прыняў удзел Генеральны сакратар ЦК КПСС т. Гарбачоў М. С. Прысутнічалі: члены Палітбюро ЦК КПСС тт. Рыжкоў М. І., Лігачоў Я. К., Варатнікоў В. І., Чэбрыкаў В. М., кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС т. Далгіх В. І., міністр унутраных спраў СССР т. Уласаў А. В.

(...) За суткі дадаткова шпіталізавана 1 821 чалавек. Колькасць асоб, якія знаходзяцца на стацыянарным лячэнні, складае на 10 гадзін 7 мая 4 301 чалавек, у тым ліку 1 351 дзіця. Сярод іх з дыягназам прамянёвай хваробы налічваецца, уключаючы супрацоўнікаў МУС СССР, 520 чалавек. У цяжкім стане знаходзяцца 34 чалавекі».

«Сакрэтна. Пратакол № 12. 12 мая 1986 г. (...) За мінулыя суткі дадаткова шпіталізавана 2 703 чалавекі, у асноўным у Беларусі. На стацыянарным абследаванні і лячэнні знаходзяцца 10 198 чалавек, з якіх 345 чалавек маюць прыкметы прамянёвага захворвання. Сярод іх 35 дзяцей».

Як суаднесці дынаміку гэтых сакрэтных паведамленняў на пасяджэнні аператыўнай групы з упартым маўчаннем у сродках масавай інфармацыі? Праўда — для патрыцыяў і праўда — для рабоў. У пратаколе № 21 ад 4 чэрвеня 1986 года ў «Дырэктывах удзельнікам чарговай прэс-канферэнцыі для савецкіх і замежных вучоных і журналістаў» была і такая загатоўка: «Для вырашэння пытання аб шпіталізацыі... зацверджаны адпаведныя паказчыкі. За прайшоўшы перыяд абследаваны ўсе людзі, што звярнуліся ў медыцынскія ўстановы. Дыягназ вострай прамянёвай хваробы ўстаноўлены ў 187 пацярпеўшых (усе з ліку персаналу АЭС), з іх памерла 24 чалавекі (двое загінулі ў момант аварыі). Дыягназ прамянёвай хваробы ў шпіталізаванай часткі насельніцтва, уключаючы дзяцей, не пацвердзіўся».

Міністр аховы здароўя УССР А. Раманенка нават праз некалькі гадоў пасля аварыі, на майскім (1989 г.) Пленуме ЦК кампартыі Украіны, усё паўтараў: «З усёй адказнасцю магу паведаміць, што, акрамя тых, хто захварэў, якіх 209 чалавек, сёння няма людзей, захворванне якіх можна ці неабходна звязваць з дзеяннем радыяцыі».

Адгадка падобных заяў была засакрэчана ў дакументах аператыўнай групы. Вось, аказваецца, якім цудоўным чынам тысячы людзей, паражоных радыяцыяй, раптам папраўіліся.

«Сакрэтна. Пратакол № 9. 8 мая 1986 г. (...) Міністэрства аховы здароўя СССР зацвердзіла новыя нормы дапушчальных узроўняў апраменьвання насельніцтва радыеактыўнымі выпраменьваннямі, якія перавышаюць ранейшыя ў 10 разоў (прыкладаецца). У асобных выпадках магчыма павелічэнне гэтых норм да ўзроўняў, што перавышаюць ранейшыя ў 50 разоў». (! — **А. Я.**). І далей, у дадатку да пратакола: «... Такім чынам, гарантуецца бяспека для здароўя насельніцтва ўсіх узростаў, нават пры захаванні данай радыяцыйнай абстаноўкі на працягу 2, 5 гадоў». Сакрэтнае медыка-гігіенічнае заключэнне па матэрыялах Дзяржкамгідрамета падпісалі першы намеснік міністра аховы здароўя СССР О. Шчэпін і першы намеснік старшыні Дзяржкамгідрамета СССР Ю. Седуноў. Такім чынам, без лячэння і лекаў тысячы нашых суграмадзян у адно імгненне, 8 мая 1986 года, вылечыліся. (Эфектыўнасць, прастата і «навуковасць» метаду наводзяць на думку: а чаму б, улічваючы нашы сённяшнія цяжкасці з лекамі, апаратурай і ложка-месцамі, не прыняць дырэктыву аб тым, што, напрыклад, пачынаючы з 1 мая г. г. нармальнай тэмпературай цела лічыць не 36,6 градуса, а, скажам, 38 ці, у «асобых выпадках», —39.).

Праз некалькі гадоў пасля аварыі, выступаючы на парламенцкіх слуханнях, нават акадэмік Л. Ільін, патрыярх вядомай канцэпцыі «35 бэр за 70 гадоў», ад якой адмовіліся вучоныя Беларусі і Украіны, эксперты ВС СССР, вымушаны быў прызнаць, што «калі знізіць яе хаця б да 7 бэр за 35 гадоў, то замест 166 тысяч чалавек, якія цяпер мяркуюцца да адсялення ў агульнай складанасці, мы павінны цяпер гэтую лічбу павялічыць прыкладна ў дзесяць разоў. Размова закране перасяленне больш паўтара мільёна людзей... Грамадства павінна ўзважыць **усю рызыку** і **ўсю выгаду** (падкрэслена мною. — **А. Я.**) ад такой акцыі». Слухаючы тады гэтыя прамовы, думала аб тым, хто ж іх вымаўляе — урач, якога хвалюе кожнае жыццё, ці скупы бухгалтар, які стукае костачкамі: жыццё — туды, жыццё — сюды? А потым жа і сам акадэмік вымушаны быў прызнаць, што «адзін мільён 600 тысяч дзяцей маюць дозавыя нагрузкі, якія нас хвалююць, трэба вырашаць пытанне, што рабіць далей». Заўважу: гэтыя дозавыя нагрузкі вылічваліся, зыходзячы з найноўшых «рэцэптаў» афіцыйнай навукі, што рабілася пад цэкоўскім грыфам «Сакрэтна». А калі паглядзець на гэтых дзяцей з пункту гледжання маральнага імператыва недапушчальнасці ахвяраў, якога прытрымліваюцца ў цывілізаваных краінах, то на колькі яшчэ трэба памножыць?

### ХЛУСНЯ № 2. ПРА «ЧЫСЦІНЮ» ПРАДУКЦЫІ НА РАДЫЕАКТЫЎНЫХ СЕЛЬГАСУГОДДЗЯХ

«Сакрэтна. Пратакол № 32. 22 жніўня 1986 г. (...) Прыняць да ведама паведамленне т. Мурахоўскага В. С. (прыкладаецца) аб тым, што... распрацаваны рэкамендацыі і мерапрыемствы па вядзенню аграпрамысловай вытворчасці на тэрыторыях з рознай шчыльнасцю забруджання доўгажывучымі ізатопамі».

Крамлёўскія мудрацы, якія пісалі гэтыя пратаколы, не маглі не ведаць, што кароўкі даюць радыеактыўнае малако, прыйшоўшы з пашаў, угноеных нават 1 кюры цэзія-137 на квадратны кіламетр.

«...Лічыць мэтазгодным закласці ў дзяржаўны рэзерв мяса з павышаным утрыманнем радыеактыўных рэчываў, што знаходзіцца на захаванні, а таксама якое падлягае закупцы ў бягучым годзе».

«Сакрэтна. Дадатак п. 10 пратакола № 32 (...). Пры перапрацоўцы жывёлы з зоны, размешчанай на следзе выкіду Чарнобыльскай АЭС, частка выпрацоўваемага мяса ўтрымлівае радыеактыўныя рэчывы (РР) у колькасцях, што перавышаюць дапушчальныя нормы. На сёння на халадзільніках мясной прамысловасці шэрагу абласцей Беларускай ССР, Украінскай ССР і Расійскай Федэрацыі знаходзіцца на захоўванні каля 10 тысяч тон мяса з узроўнем забруджання РР ад $1{,}1 \cdot 10^{-7}$ кі/кг да $1{,}0 \cdot 10^{-6}$ кі/кг, у жніўні — снежні бягучага года чакаецца паступленне з вытворчасці яшчэ 30 тысяч тон такога мяса.

Для таго каб не дапусціць вялікага сумарнага назапашвання РР у арганізме людзей ад ужывання брудных прадуктаў харчавання, Міністэрства аховы здароўя СССР рэкамендуе **максімальна разгрупаваць забруджанае РР мяса па краіне** (падкрэслена мною. — **А. Я.**) і выкарыстаць яго для выпрацоўкі каўбасных вырабаў, кансерваў і мясных паўфабрыкатаў у суадносінах да дзесяці з нармальным мясам.

**Ала ЯРАШЫНСКАЯ.**

(Заканчэнне будзе).

## СОРАК САКРЭТНЫХ ПРАТАКОЛАЎ КРАМЛЁЎСКІХ МУДРАЦОЎ



**За шэсць год, што мінулі з красавіка 86-га, мёртвая зона ўжо ўшчыльную наблізіжаецца да раённых цэнтраў Ветка, Брагін, Хойнікі, Нароўля. Непасрэдная блізкасць ад Чарнобыльскай АЭС практычна ўсёй тэрыторыі Гомельскай вобласці робіць жыццё тут небяспечным. І жыхары пералічаных райцэнтраў хутчэй за ўсё будуць выселены адсюль, як і іх землякі з 30-кіламетровай зоны. Напрыклад, у Хойніцкім раёне з 47 тысяч чалавек, якія жылі тут да аварыі, засталося ўжо 34. Такая ж карціна і ў іншых рэгіёнах, што прылягаюць да ЧАЭС.**

**Па дарозе з Хойнікаў у Брагін па правым баку няма ніводнага жылога населенага пункта! Толькі нітка аўтатрасы аддзяляе «жывую» зямлю ад «мёртвай»! Вось ужо і ад Хойнікаў да радыеактыўнай зоны, якая пачынаецца ў вёсцы Бабчын, засталося ўсяго 8—9 кіламетраў. А адсяленне, на жаль, ідзе марудней, чым мёртвая зона захоплівае чыстыя землі...**

**НА ЗДЫМКУ: Прыпяць — мёртвы горад.**

**Фота У. ШУБЫ.**

*СТАРОНКІ БАГАТАЙ І НЕЗНАЁМАЙ ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

# У ПОЛАЦКАЙ НАСТАЎНІЦКАЙ СЕМІНАРЫІ

## *УСПАМІНЫ*

Многія з вучняў падрыхтоўчага класа так і не змаглі перададолець традыцый сваёй прыроджанай мовы, і, як цяпер думаю, гэта і перашкаджала ім засвоіць курс.

Колькі гадоў пазней, чытаючы беларускую прэсу, я зразумеў сутнасць гэтай русіфікацыі беларусаў, зразумеў таксама, чаму пры семінарыі існаваў асобны падрыхтоўчы клас: яго заданнем, між іншым, было адвучваць выхаванцаў ад беларускай мовы і прывучваць да літаратурнай мовы.

### ВЫХАВАННЕ

Наша выхаванне вызначалі два фактары: першы — семінарыя была закрытай установай, другі — вялікае значэнне надавалася рэлігіі (праваслаўю).

Семінарыя жыла сваім адасобленым, шчыльна агароджаным ад свету жыццём. Мы, семінарысты, ведалі толькі свае падручнікі, інтэрнат, класныя пакоі. Трымалі нас пад строгім наглядам. Хадзіць да знаёмых і наогул мець у горадзе знаёмствы было забаронена. Таксама было забаронена адведваць якія-колечы гулянні, публічныя вечары, чытаць часопісы і асабліва штодзённыя газеты. Трэба сказаць, што на гэта і часу не заставалася. За чатыры гады (лічачы і падрыхтоўчы клас) трэба было прайсці шырокую праграму агульнаадукацыйных і спецыяльных прадметаў, а прынятыя ў семінарыю вучні былі падрыхтаваны вельмі слаба.

Дзень у нас пачынаўся ранішняй малітвай, якую чытаў дзяжурны. Заняткі пачыналіся а восьмай гадзіне і працягваліся да трох. Затым — абед, а ад 6 да 9 гадзін — падрыхтоўка ўрокаў на наступны дзень. Пасля — вячэра, вячэрняя малітва, а з дзесятай гадзіны — начны адпачынак (вучням старэйшых класаў дазвалялася вучыцца да 11 гадзін). Толькі ў нядзелю пасля абеду было крыху вольнага часу, калі мы маглі прайсціся. І ўсё ж некаторыя семінарысты паспелі завесці сабе знаёмых, і вечарам у нядзелю ці ў свята часам адведвалі іх, некаторыя ж налаўчыліся нават наведвацца ў сад, дзе адбываліся гулянні. Усё гэта рабілася, зразумела, употай ад настаўнікаў.

Цяпер, праз многа гадоў, трэба задумацца: а можа такое строгае выхаванне было і патрэбна? Вучнямі семінарыі былі пераважна сялянскія дзеці з далёкіх мясцовасцяў. Яны не ведалі жыцця наогул, тым больш гарадскога, так што, калі б адпусціць лейцы свабодней, многія з іх маглі б збіцца з дарогі. Але, зразумела, такое агароджванне ад усяго свету мела і адмоўныя бакі, што пазней у жыцці выхаванцы семінарыі вельмі адчувалі. Наогул адмоўнага ў тыя гады было шмат — і ў школьнай, і ў выхаваўчай сістэме.

Рэлігійнаму выхаванню ў семінарыі было адведзена выключна важнае месца. І не толькі таму, што яе дырэктар быў выхаванцам духоўнай акадэміі і глыбока рэлігійным чалавекам, але яшчэ і па матывах палітычных і нацыянальных. У Віцебскай і Магілёўскай губернях усю масу жыхароў складалі беларусы. Абедзве гэтыя губерні на працягу стагоддзяў былі часткай Рэчы Паспалітай, і паляні за часы свайго панавання шмат папрацавалі над тым, каб апалячыць і акаталічыць мясцовых жыхароў-беларусаў. Нягледзячы на тое, што з часу далучэння гэтых губерняў да Расіі мінула ўжо больш стагоддзя, польскія ўплывы тут адчуваліся яшчэ вельмі моцна, бо да паўстання 1863 года нават палітычная і эканамічная сіла была ў руках польскіх памешчыкаў. Цяпер улада Расіі хацела выпалаць гэтае шкоднае для дзяржавы пустазелле і ўмацаваць у народзе рускі нацыянальны дух. Школам тут адводзілася вялікая работа.

Па курсу рэлігіі мы вывучалі дагматыку, гісторыю царквы і літургіку (адпраўленне праваслаўных набажэнстваў). Семінарыя мела ў сваім будынку царкоўку, дзе кожны суботні і перадсвяточны вечар свяшчэннік, ён жа і выкладчык рэлігіі, адпраўляў вячэрнія набажэнствы, а кожную нядзелю і свята — літургіі. На іх трэба было прысутнічаць усім семінарыстам. Вучні апошніх класаў па чарзе выконвалі абавязкі псаломшчыка. Спяваў на набажэнствах семінарскі хор: тэнары і басы — семінарысты, а дысканты і альты — вучні ўзорнага вучылішча семінарыі. Апрача таго ў некаторыя святы, яшчэ перад літургіяй, выкладчык рэлігіі збіраў частку класаў і загадваў чытаць тлумачэнні парэмій (урыўкаў з кніг старога запавету, дзе выказаны прароцтвы аб пазнейшых падзеях). На працягу чатырох школьных гадоў гэта давала грунтоўную практыку адпраўлення набажэнстваў. Веды выхаванцаў семінарыі былі такія значныя, што па заканчэнні курса семінарысты маглі займаць і месцы свяшчэннікаў.

Вокны нашых класаў выходзілі на плошчу ў цэнтры горада; за ёй была Мікалаеўская царква і будынкі кадэцкага корпуса. Кожны дзень, седзячы на ўроках, мы бачылі, як кадэты пасля снядання гулялі па плошчы. Гэта для іх было абавязкова. Мы, семінарысты, зайздросцілі ім, і ў таго-сяго з нас часам узнікалі пытанні: чаму так? Чаму кадэты могуць гуляць, а мы не? Чаму ў нас нават страва не такая, як у кадэтаў? Няўжо ж занятак настаўніка, народнага асветніка, менш карысны, чым занятак афіцэра?

### СПЕВЫ І СПЕВАКІ

Спевы ў семінарыі ў наш час былі наладжаны слаба. Віной тут, відаць, было тое, што казна не давала дастатковых сродкаў на аплату настаўнікаў-спецыялістаў. Спевы выкладаў выхаванец гэтай жа семінарыі В. Савіцкі. Без спецыяльнай вакальнай адукацыі, ён толькі сам, сваімі сіламі і сродкамі паглыбляў свае веды ў тэорыі спеваў і музыкі.

У сябе на радзіме я спяваў у царкоўным хоры пяць гадоў і ведаў многа царкоўных песень рускіх кампазітараў. Таму ў тэорыі спеваў семінарыя давала мне мала чаго новага. Большая ўвага надавалася царкоўным спевам, бо яны займалі пераважнае месца ў богаслужэннях ва ўсіх праваслаўных цэрквах. Кожнаму настаўніку трэба было самому спяваць у царкве і навучаць спевам сваіх выхаванцаў. Сельскія школы тады былі ў валасных цэнтрах, дзе знаходзіліся цэрквы. Таму ўсе вучні семінарыі прысутнічалі ў сваёй царкве на кожным набажэнстве і слухалі там спеў свайго хору ці спявалі самі.

Лепшымі спевакамі былі, зразумела, старэйшыя вучні, бо ў іх ужо ўсталяваўся голас.

Часта надвячоркам, у нядзелю ці свята, вучні старэйшага класа ў сваёй спальні ўтваралі імправізаваны хор. Песні, разучаныя ў класах семінарыі, тут спявалі рэдка. Найчасцей з вялікай любоўю выконваліся песні, занесеныя некаторымі семінарыстамі звонку, ад мясцовай інтэлігенцыі. Такія песні больш падабаліся — мусіць, таму, што ў іх адчувалася рамантычнае. Рэпертуар быў даволі шырокі і складаўся пераважна з распаўсюджаных тады рускіх і ўкраінскіх народных песень, рамансаў рускіх кампазітараў: «Вниз по матушке по Волге», «Не осенний мелкий дождичек», «Эй, ухнем!», «Жаворонок», «Из-за гор-горы едут мазуры», «Гей, під горю», «Куковала зозуленька», «Среди долины ровныя», «Не шей ты мне, матушка», «Что так жадно глядишь на дорогу», «Вечерний звон» і іншыя — усяго каля дваццаці пяці песень. Вось такім і застаўся ў маёй памяці рэпертуар хору семінарскага інтэрната.

### ВЫСОКІЯ ГОСЦІ

У семінарыю кожны год на выпускныя экзамены прыязджаў куратар віленскай вучэбнай акругі Сергіеўскі. Спыняўся ён у запасным памяшканні семінарыі — у парадных пакоях. І тады ад асобнага ўваходу ўся падлога, лесвіца на верхні паверх, калідор уздоўж класных дзвярэй — аж да актавай залы — засціляліся адмысловай дарожкай.

**Юрыс КРЭЙЦ.**

**Працяг. Пачатак у № 20.**

# НАМ ЗАСТАЛОСЯ СВЯТА





**(Заканчэнне. Пачатак а 1-й стар.).**

**Назіраючы за павевамі палітычнага надвор'я, год назад многія задавалі сабе пытанне: «Ці не стане Дзень Перамогі апошнім дзяржаўным святам у СССР!» Ветэранам з кпінамі і злосцю кідалі ў твар: «Навошта вы ваявалі, калі мы жывём горш, чым немцы!» Публіцысты і гісторыкі сцвярджалі, што ў той вайне ў роўнай меры былі вінаватыя і Гітлер, і Сталін. А таму, маўляў, высілкі пакалення, якое вынесла, выцерпела, выпакутавала вайну з Германіяй і дамаглося перамогі над страшным ворагам, былі марнымі. Хваліцца няма чым, ды і даўно тое было, так што — пара выкрасліць дату 9 Мая з календара. А ветэраны хай паціху дажываюць свой век.**

**Але рассыпаўся СССР, распалася і перастала існаваць Савецкая Армія, новыя суверэнныя дзяржавы адзначаюць новыя святы, а Дзень Перамогі застаўся. Бадай, што ўсюды, акрамя Прыбалтыкі. Напэўна, таму, што гэта адзінае свята, якое адзначаюць у кожным нашым доме: няма чалавека на Беларусі, у лёс якога так ці інакш не ўварвалася б і 1941-шы, і 1945-ты год.**

**Атмасфера сёлетняга 9 Мая ў нашай рэспубліцы была больш простай, шчырай і сардэчнай, больш чалавечнай. А прысутнасць на плошчы Перамогі ў Мінску пры ўскладанні вянкоў не толькі афіцыйных асоб высокага рангу, але і розных грамадскіх арганізацый, прадстаўнікоў царквы наводзіць на думку: Дзень Перамогі з казённага свята становіцца народным.**

**Адметнасці сёлетняму 9 Мая надало і тое, што раніцай, каля 7-й гадзіны, праз радыё да народа звярнуўся на беларускай мове наш беларускі міністр абароны генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі. Упершыню свята Перамогі ў Беларусі адзначалася ва ўмовах дзяржаўнай незалежнасці. І гэта адчувалася ва ўсім.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мінск. 9 мая. Плошча Перамогі.**



One of the oldest Minsk libraries named after V. V. Mayakovsky has moved to a new place of residence in Shabany microdistrict, the youngest in the city.
PHOTO: The first reader is welcomed by the librarian L. I. KALDANOVA.

# NO WALESA YET?

Solegorsk miners have been on strike for more than a month. All potassium pits and processing plants stand still, pickets around warehouses prevent finished products from being delivered to clients. Miners demand new tariffs, guaranteed incomes on a par with the cost of the consumer goods basket, a share in profits, specifically in hard currency profits, and the transfer of social insurance to the local Independent Miners' Trade Union. There are two trade unions operating at the Belarus Potassium mines, one official and the other independent. The strike has been called by the latter. One of the demands is the resignation of Belarus Prime Minister Vyacheslav Kebich and director-general of the mine Anatoly Podlesny who regards the miners' demands unlawful.

The government agreed to compromise, promising to raise miners' wages, but the strikers rejected government proposals. Eight men, including the independent trade union leader Ivan Yurghevich, have gone on a political hunger strike. They have drafted an appeal to the world community and the trade union movement which says they are risking their life and good health to make the government give up their anti-popular policies.

The administration of Belarus Potassium mines has brought legal action against the independent trade union committee. The judge reviewing the case said if the court finds the strike unlawful the administration will begin sacking miners. According to director-general Anatoly Podlesny, the mines are in for massive production and work force cuts. If the court settles the case in the administration's favour, strike breakers are likely to appear in Solegorsk and clashes with striking miners will be inevitable.

Massive redundancies are likely all over Belarus. As transpired at the latest session of the Presidium of the Council of Ministers, 25 to 30 per cent of jobs will have to go this year. With privatization in the offing it means thousands of potential shareholders, including long-serving workers, will be denied their part of public property, and tendency towards lumpenization will increase. In the meantime surreptitious privatization which excludes workers altogether has taken place in some industries for several years.

Each political force in Belarus is seeking to win over the working masses. In April the Movement for Democracy, Social Progress and Justice, a modified wing of Belorussian communists, tried to "join ranks with the proletariat" in Minsk's Independence Square at a rally dedicated to an anniversary of the first all-Belorussia strike. The attempt might have ended in street fights if it had not been for the intervention of riot police which prevented the two rallying forces from clashing. Leaders of the workers' movement do not wist to join ranks with any political party.

However, the workers' movement is no longer united. As a result of spontaneous popular protests all over Belarus the government has met most economic demands (inevitably leading to another bout of inflation). In the past year, two wings have appeared in the workers' movement: the Belarus Free Trade Unions led by people's deputy Sergei Antonchik, and Labour Confederation led by Mikhail Sobol. Nobody seems to heed official trade unions any longer. Their tactical differences might be originally due to the two men's personal rivalry. However, today their trade union associations are deeply opposed.

Belarus Free Trade Unions are more radically minded. Their coordinator Anatoly Matveyenko told the local press: "We have survived Brezhnev, Andropov, Chernenko, Gorbachev, perestroika and the August coup. We shall certainly outlive the Minsk 'accords', too". At the same time Sergei Antonchik called workers to go on an all-Belarus political strike to try and change power structures replacing the turn-coat and die-hard party and managerial nomenklatura. He is emulating Poland's Solidarity in Belarus Free Trade Unions.

Labour Confederation has fixed membership and denies general strike as means of political. A strike is accepted solely as the means of solving specific conflicts at individual work places. The Confederation believes in "teaching people how to protect themselves rather than actually protecting anybody". The first ever sit-in at a Minsk photo studio is under the Confederation's auspices. Employees are protesting against their bosses' refusal to lease the studio to its own staff.

Mikhail Sobol of the Labour Confederation has set himself the tactical task of avoiding armed conflicts. He believes that last year's industrial action was provoked by high-ranking bosses. The new wave of strikes may be provoked now to introduce emergency measures.

**Larisa SAYENKO**

# APPEAL

**OF INTERNATIONAL ASSOCIATION "BELARUS — FRANCE" (BELFRANCE) T ALL BELARUS PEOPLE LIVING ABROAD**

**The International Association "Belarus — France" was founded on October 17, 1991 by different organizations, institutions, businessmen and citizens of the above-mentioned countries.**

**Our Association is aimed to assist in establishing and developing bilateral relationships between two sovereign states — Belarus and France. This involves a wide range of economic, cultural and humanitarian ties. First steps have already been made in establishing joint-ventures, exchange of scientific, technical and commercial information, fairs; in arranging business and cultural tours, exhibitions and concerts of Belarusian artists in France and other European countries.**

**Of special importance is considered to be strengthening of friendly relations with those people in France who have close links with compatriots in their former motherland — Belarus.**

**However, to fulfil all our intentions and plans we need a financial support. Therefore, BELFRANCE appeals to all Belarus people abroad, to the businessmen who take interest in the Belarusian market and seek for reliable and promising partners in our Republic, and to those people of goodwill who feel anxious about spiritual unity, Belarus language, history, culture and art and who long for the land of their ancestors, for their cooperation and financial assistance.**

**The address of BELFRANCE Representation in Paris: 65 Rue Gravillers, Paris, 75003, Mission Catholique Bielorussienne En France, tel. 42-77-86-53, 39-13-22-56.**

**The address in Minsk: Tsmyg Mikola, BP 204 MINSK, 220136 BELARUS tel. 29-16-38, 58-23-89**

**Currency account 700035 in the Commercial Bank "Belarus" Minsk, International Association "Belarus — France"**

**ASSOCIATION COUNCIL.**

# CHERNOBYL'S FATAL LEGACY

Ukrainian authorities have recently issued dramatic new figures on illnesses caused by the Chernobyl nuclear disaster and appealed again for international help to cope with the legacy of the 1986 accident.

Ukraine's parliamentary commission on Chernobyl said 37 Ukrainian and 51 Belarusian children were diagnosed with thyroid cancer in 1991 and 1992, compared with an average of one or two cases a year before the accident.

Birth defects and growth problems in children have increased 230 per cent in Ukraine and 180 per cent in Belarus, and cases of children suffering from severe immune disorders have become two to 3.5 times more common, the commission said.

Men and women who took part in the cleanup of the nuclear power plant have proved to be five to 15 times more susceptible to gene or chromosome aberrations than a control group, the commission reported.

"It is clear the population of Ukraine, Belarus and Russia really is living in conditions of high radiation risk", the report concluded.

The health effects of the world's worst nuclear accident have been a subject of debate for years.

One of the major problems, Western experts say, is that Soviet health statistics from before 1986 are an unreliable base for comparison.

The official death toll from the accident is 32. But scientists and politicians in Ukraine claim the actual figure is at least 250 and could be as high as 10,000.

The commission released its findings at the same time that a UN report revealed that more rhan 70 years of communist rule had left the former Soviet Union with a legacy of environmental catastrophe, woeful nutrition, and birth control based on abortion.

A report by the World Health Organisation and the UN Children's Fund says the health system is now on the brink of collapse because of the shock of moves to a market economy and the sudden cut-off of supplies as trade links within the former Soviet empire are severed.

The 1000-page report said $550 million was needed over the next 18 months for essential medicines, equipment and training.




## CHERNOBYL WAS ONLY THE FIRST

PREVIOUS accidents at nuclear power plants in the former Soviet Union include:

● April 26, 1986 — An explosion and fire in a Chernobyl reactor. Official death toll 32, but scientists claim the toll was at least 250.

● June 26, 1989 — Radioactive water spills at the Kursk nuclear plant.

● May 4, 1991 — Radioactive leak at the Bilibin nuclear plant in northern Siberia.

● July 10, 1991 — Leak at the Ignalina nuclear plant in Lithuania.

● October 11, 1991 — Fire at the Chernobyl plant destroys part of the roof and forces temporary reactor shutdown.

● November 1, 1991 — Another fire at Chernobyl.

● March 4, 1992: Fire forces shutdown of Balakovskaya plant.

● March 24, 1992: Radioactive gas leak at Leningradskaya power station in Sosnovy Bor.

**Editor of the English page T. BONDARENKO.**

ЧАЛАВЕК. ЛЁС. ЧАС

# КРЫЖ І КАЙДАНЫ СЯРГЕЯ НОВІКА-ПЕЮНА

І

На развітанне, калі ўжо было многае перагаворана і ўспомнена, перагледжаны паэтычныя зборнікі, мноства дакументаў і фатаграфій, гаспадар гэтай надта сціпла, калі не сказаць — бедна абстаўленай кватэры прынёс яшчэ адну каробку.

— Гэта ж я вам меўся паказаць свае сувеніры, ледзь не забыўся.

І пачаў з вялікай каробкі дставаць меншыя і паказваць, што ў іх было. Калі намагаюся цяпер успомніць, што ж там усё-такі было, прызнаюся, бачу нейкую агульную, змазаную карціну, складзеную, бы мазаіка, з розных значкоў і сувеніраў, а на фоне яе выразна, рэзка, як боль, — крыж жаўтаватакрэмавага колеру і масіўны персцень ці то са сталі, ці з іншага якога металу. На іх — выдрапаны даты, месца і прозвішча: «1945—1958. Калыма. Сяргей Новік-Пяюн».

Узнімаю дапытлівы позірк на Сяргея Міхайлавіча і чую ў адказ:

— Гэты крыж з косці маманта. Знайшлі ў рудніку, дзе дабывалі малібдэн. А на пярсцёнкі пайшлі кайданы, якія цішком схавалі ад вартаўнікоў. Людзі там былі з рукамі: нарабілі такіх крыжыкаў і пярсцёнкаў сябрам-катаржанам на памяць.

Адрываю вочы ад крыжа і хачу разгледзець абразкі, што вісяць у куце, высока над просценькім ложкам-канапкай.

— Вы веруючы, Сяргей Міхайлавіч?

— Так, я заўсёды быў чалавекам веруючым. Наша сям'я з уніятаў. У нас і царква уніяцкая была. Аж з XVII стагоддзя. Потым, у 60-я гады, яе зруйнавалі апантаныя атэісты.

Пра гэта я не чуў ад Сяргея Новіка-Пеюна, хаця ведаю яго даўно. Памятаю канец шасцідзесятых — сямідзесятыя гады. Сяргей Міхайлавіч часта заходзіў у рэдакцыю «Голасу Радзімы». Калі было лета, цёплая пагода, здымаў светлы саламяны капялюш з галавы і чапляў яго на вешалку, калі стаяла восень і слата, здымаў з чаравікаў галёшы і ставіў іх у куток пад вешалку. Увесь такі мяккі, далікатны, ён здаваўся мне чалавекам не з нашага, савецкага, часу. І па сённяшні дзень у яго засталося многае ад таго, заходнебеларускага інтэлігента, які вызначаўся высокай нацыянальнай свядомасцю і не меншай самаахвярнасцю; ад таго даўнейшага беларуса, галоўнай рысай характару якога былі цярплівасць і вольны палёт думак.

У тыя гады Новіка-Пеюна не прывячалі ў іншых рэдакцыях. Здавалася б, чалавек, які прайшоў польскую ссылку і турму, Калдычэўскі лагер смерці пры немцах... Але ж ён «адстукаў» і 15 гадоў на Калыме. Дарма што рэабілітаваны, але ж ён там быў. Не, брат, лепш не пушчаць на парог такую асобу. Ды і паэзія яго... Колькі разоў мне даводзілася чуць пра Сяргея Новіка-Пеюна: «А, дык гэта той самы, які сядзеў пры любой уладзе...»

— Я ўдзячны Леаніду Прокшу і да гэтага часу хаваю яго ліст: ён знайшоў мяне ў Нясвіжы. Там я туляўся нейкі час пасля Калымы. Ён пачаў друкаваць мае вершы і песні тады, калі ніхто не друкаваў. Пазней ужо сталі мяне публікаваць у «Чырвонай змене». Дзякуючы Валодзі Паўлаву, тадышняму рэдактару.

— А колькі ж усяго кніжак вашых выйшла? — пытаюся ў Сяргея Міхайлавіча.

— Да вайны — 4, у Заходняй Беларусі выдадзены. Каб надрукаваць вось такую танюсенькую кніжачку, трэба было 100 пудоў хлеба прадаць — 200 злотых. А за ўвесь савецкі час выдалі дзіцячую кніжку ды зборнічак «Заўсёды з песняй» у 1984 годзе. Астатняе — па вершыку ў калектыўных зборніках.

Гэты зборнічак з дароўным надпісам аўтара я якраз узяў з сабой, адпраўляючыся ў госці да Новіка-Пеюна. Зборнічак хутчэй нагадвае гоненькую брашуру. Першая кніжка паэта, які толькі спрабуе сваё пяро, цяпер і то мае больш старонак. А ў Новіка-Пеюна ўсё-такі за плячыма доўгія і пакутлівыя жыццёвыя дарогі, барацьба і вера, цяжкі крыж любові да Радзімы, да свайго, беларускага, — і ўсяго пару аркушаў.

— «Заўсёды з песняй» павінна была выйсці ў 6 аркушаў: 112 вершаў, 21 песня з нотамі, 21 каляровая копія маіх карцін, адна п'еса і два апавяданні. Зрабілі з гэтага брашурку і сказалі: «Хопіць!»

Многім адарыў бог Новіка-Пеюна — даў яму талент мастака і музыканта, паэта і педагога, даў яму добрую душу і моц духу, не надзяліў толькі тым, што ў нас называюць сёння «прабіўной сілай» — уменнем хадзіць па рэдакцыях часопісаў і выдавецтвах і прабіваць свае творы. Але гэта ўжо ў нашага чалавека не ад Бога.

Летась споўнілася Сяргею Міхайлавічу 85. Да юбілею павінна была выйсці кніжка ўсяго яго жыцця — «Песні з-за кратаў». Заказаў на зборнік паступіла больш, чым спадзяваліся. Юбіляр цешыўся, што можа ўрэшце... Урэшце яму прыслалі з выдавецтва паперу: «Песні з-за кратаў» па якіхсьці прычынах не будуць выдадзены, а Новіку-Пеюну ласкава прадастаўляюць магчымасць даць некалькі вершаў для калектыўнага зборніка «Галасы з бяздоння». Зноў — у калектыўным! Як нейкі здзек лёсу ці што. Толькі пасля адчайнага ліста аўтара да вышэйшых асоб дзяржавы і ўмяшання такога аўтарытэта, як Ніл Гілевіч, Сяргею Новіку-Пеюну паабяцалі, што яго кніга будзе запланавана ўсё ж асобным выданнем. Але калі будзе, аўтару з выдавецтва не адказалі. А яму ж 86 гадоў...

II

Азіраю цесны пакойчык з пашарпанай, рассохлай падлогай, на якой нават палавічка няма, ні шафы якой — увесь гардэроб гаспадара вісіць у куце навідавоку. Адзінае багацце тут — кнігі, скрынкі рукапісаў і партрэты, партрэты, партрэты. Дзеячаў беларускай культуры, людзей, з якімі быў блізкі Сяргей Новік-Пяюн у маладосці і з якімі сябруе сёння. Над пісьмовым сталом, простым канцылярскім, яшчэ, відаць, шасцідзесятых гадоў, бо цяпер такіх і не адшукаеш: вырабляюць куды болей зручныя, з сучасным дызайнам, бачу «Пагоню» — вялікі абраз у рамцы пад шклом.

— Гэта мая сястра вышывала, — ад успамінаў цяплеюць вочы паэта. — Дома ў нас вісела, у Лявонавічах... Слухайце, я ж помню 1918 год: абвяшчэнне БНР... Мы тым жылі, мы марылі пра сваю Беларусь. І не толькі ў нашай хаце ўсё было прасякнута беларускім духам.

Слухаю Сяргея Міхайлавіча, а да галавы раптам прыйшла недарэчная думка: Новіка-Пеюна адведаў Данчык, калі быў у Мінску, якімі вачамі ён, што вырас у амерыканскіх умовах, глядзеў на жытло любімага ім паэта?

— А мы не заўважалі нічога, акрамя адзін аднаго. Мы былі ў іншым свеце... Хочаце, я вам раскажу пра першую сустрэчу з Данчыкам? Прывезлі мяне ў нейкае памяшканне. Стол, за якім збіраюцца людзі для бяседы. Усадзілі мяне ў крэсла, а месца насупраць — свабоднае, ніхто яго чамусьці не займае. Праз колькі хвілін уваходзіць Данчык у залу, і яго садзяць якраз насупраць мяне. Я то яго ведаю з фотаздымкаў, а ён мяне — не. І нават не глядзіць у мой бок. Потым яму шапнулі нешта на вуха. Як ён кінецца да мяне: паціскае рукі, абдымае.

Пабачыць аўтара «Зорачак» і пакланіцца яму. Як гэта ні шаблонна гучыць, але іншых слоў, каб выказаць стан душы Данчыка, не падбяры. Гэта ў нас, на жаль, пра «Зорачкі» ведаюць вельмі і вельмі нямногія беларусы, а там, за мяжой, сярод эміграцыі, гэтая песня — бы малітва, якую спяваюць штодня, штовечар, кладучыся спаць, каб хоць у снах убачыць сваю Радзіму.

Напісаную яшчэ ў польскай ссылцы ў 1929 годзе, яе зразумее і вывучыць, як пацеры, відаць, толькі той, хто спазнаў, што такое чужая далячынь, хто перанёс усе нягоды выгнанніка. Нездарма яе спяваюць не толькі беларусы, яна вядома і рускім, і палякам, і ўкраінцам. «Зорачкі» перакладзены на многія мовы свету, нават на эсперанта.

Сярод многіх водгукаў я знайшоў і такі ў архіве паэта: «Каб вы не стварылі больш нічога, акрамя «Зорачак», ваша імя па праву можа ўвайсці ў нацыянальную літаратуру». Веру, што гэтыя словы напісаны не для таго, каб пацешыць самалюбства Сяргея Новіка-Пеюна. Той, хто пісаў іх, быў уражаны моцай песні, глыбінёй пачуццяў і думак, што тояцца ў ёй. Напэўна, так і я быў уражаны гімнам «З крыві беларускай», калі ўпершыню яго пачуў сёлета на вечарыне, прысвечанай 74-й гадавіне БНР у мінскім Доме літаратара. Як і ўся зала, я імпульсіўна ўскочыў з месца і не шкадаваў далоняў, вітаючы аўтара гімна. Сяргей Міхайлавіч бянтэжыўся і раскланьваўся, прыкладаючы рукі да грудзей. Ці думаў ён, ці спадзяваўся, калі на катарзе ў Запалярнай Якуціі, паміраючы ў бараку на нарах, складаў у думках вершы і мелодыю гімна «З крыві беларускай», што дачакаецца такога імгнення?

Дарэчы, пра «ў думках». Сяргей Новік-Пяюн расказаў мне, што аднойчы пачуў ад дзяўчынкі-школьніцы, дачкі яго сябра: «Хачу пабыць у турме!» На жахлівыя запытальныя позіркі бацькоў дзяўчо адказала: «Каб развіць так сваю памяць, як Сяргей Міхайлавіч».

Сапраўды, памяць у яго фенаменальная. Тыя ж пакуль не выдадзеныя «Песні з-за кратаў» Новік-Пяюн запісаў з памяці, калі ўжо выйшаў на волю. А складаў жа ён іх у галаве на катарзе. І словы, і музыка — усё найперш адкладалася ў памяці. Сорак дзве страфы паэмы «Развітанне з мамай» ён склаў у галаве за адну ноч, чакаючы ў няволі вырашэння свайго лёсу.

— Усё памятаю і цяпер, — кажа Сяргей Міхайлавіч, — магу заспяваць, магу прачытаць.

III

Кайданы і крыж былі сімвалам жыцця гэтага чалавека, але яны ніколі не прыгняталі яго думку, не скоўвалі свабоду духу. Сяргей Міхайлавіч гаворыць мне, што апошнія восем гадоў пісаў раман «Подласць». Напісаў і знішчыў. На маё пытанне: «Навошта?» ён толькі перасмыкнуў плячыма. Гэта ўсё з перажытага, пра тых, хто прадаваў і здраджваў.

— Ці многа такіх людзей было на вашым жыццёвым шляху?

— Адзінкі. Але былі. У 25-м годзе мяне адзін хлопец прадаў, свой, аднавясковец, ён быў правакатарам. Выдаў нашу тайную беларускую школу. У мяне захавалася яго фатаграфія. Тады мне палякі пяць гадоў ссылкі далі. Трапіў у Свеце над Віслай. На левым баку жыў я, а на правым — Наталля Арсеньева.

Сяргей Хмара, калі прыйшлі Саветы ў 1939 годзе і яго арыштавалі за супрацоўніцтва з дэфензівай, у мінскай турме на мяне даносы пісаў.

На паспеў выйсці з Калдычэўскага лагера, а мяне ў снежні 1944 года, можна сказаць, транзітам — у савецкі лагер. Абылгаў зноў жа свой чалавек, з якім разам працавалі.

— А хто ў вашым жыцці пакінуў добрую памяць, каго вы лічыце сваім другам і настаўнікам?

— Першы мой сябра быў яшчэ ў польскай ссылцы — прафесар Будых. Ён навучыў мяне, як весці сябе на допытах.

Другі — Іосіф Стабровскі, заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея. Ён навучыў мяне ніколі нікому не помсціць. І я нікому не помсціў. Цікава, што нават той, хто робіць мне крыўду, пасля да мяне звяртаецца па дапамогу. І я не помню зла, дапамагаю, чым магу. Дэвіз майго жыцця: «Вялікая радасць — сеяць дабро».

На Калыме ў мяне былі добрыя сябры — доктар Гуталевіч, які ведаў мяне як паэта яшчэ з даваеннага Нясвіжа, і карэец Валодзя Лі. Кроплі вады без мяне не выпіў, акрушынкі хлеба не з'еў сам. І цяпер у мяне многа сапраўдных сяброў: Дамашэвіч Валодзя, Яраслаў Пархута, Валодзя Пецюкевіч...

— Сяргей Міхайлавіч, вы прайшлі і польскія турмы, і ссылку, і нямецкі засценак, і канцлагер, і савецкі ГУЛАГ. Дзе было страшней?

— Я скажу так: усюды было страшна, бо няволя. Але калі немцы здзекаваліся, дык гэта ж — немцы, ворагі, чужынцы. Але як ад сваіх цярпець? Крыўдна было. І горка.

— У вас павінна быць крыўда на савецкую ўладу...

— Не, ніколі гэтага пачуцця не было. Гэта ж не савецкая ўлада, а свае людзі зрабілі мне такое зло, з-за іх я пакутаваў.

— Ці ўласціва вам пачуццё страху?

— Не, пачуцця страху ніколі не адчуваў. Я не веру, што мяне заб'юць, нават калі немцы ўсыпалі мне палкамі 200 удараў. Выцярпеў. У Калдычэве мяне называлі апосталам: я падтрымліваў дух вязняў. Там толькі пару немцаў было, астатнія 300 галаварэзаў — свае, здраднікі. Але я нікому зла не зычу. Сіла духу мяне заўсёды і ўсюды ратавала. У лагеры смерці я стварыў раманс «Белы снег»...

Дзіўны чалавек гэты Новік-Пяюн: перад абліччам смерці, у пакутах, калі наогул можна розум страціць, над безданню вечнасці, ён стварае рамансы, гімн Бацькаўшчыне, паэму «Развітанне з мамай».

— Не ведаю, што са мною, — усмешка шчаслівага чалавека з'яўляецца на твары Сяргея Міхайлавіча, — але мне весела, а ў галаве мелодыі. Ведаеце, колькі рамансаў я стварыў, будучы хворым?..

А ён жа сапраўды такі хворы, сам не выходзіць з пакоя. Ці да рамансаў тут?!

Сяргей Міхайлавіч праспяваў мне «Белы снег» ад пачатку да апошняй страфы. Толькі паспеў ён закончыць, як раздаўся званок тэлефона. Пасля працяглай гаворкі з кімсьці Новік-Пяюн паклаў трубку і сказаў: «У канцы мая ў Доме літаратара хочуць правесці вечар майго раманса».

IV

Перад тым, як выправіцца да Сяргея Новіка-Пеюна, я ўзяў у рукі яго кніжку «Заўсёды з песняй» і яшчэ па школьнай звычцы, заплюшчыўшы вочы, адкрыў старонку наўздагад і прыціснуў пальцам. Мне трапіўся трыялет, прачытаўшы які, я падумаў: увесь Новік-Пяюн у гэтым. Цяпер і нагадаў яму радкі трыялета:

**Шчаслівым будзе той заўсёды,**
**Вясну хто ў сэрцы захавае,**
**Душу хто маладую мае,**
**Шчаслівым будзе той заўсёды.**

**Хоць іней голаў асыпае,**
**Хоць стрэнуць мо жыцця нягоды,**
**Шчаслівым будзе той заўсёды,**
**Вясну хто ў сэрцы захавае.**

— Кампазітар Багатыроў на гэты верш музыку напісаў. Яго спявалі. Мне пра гэта Шырма паведамляў, — адразу ж успомніў паэт.

Мяне цікавіла, калі і пры якіх акалічнасцях быў напісаны верш. Напэўна, не за пісьмовым сталом.

— Пачакайце. — Сяргей Міхайлавіч з мноства папак выцягнуў адразу патрэбную, адгарнуў патрэбную старонку — глядзіце!

Там значылася: «Слонім. Гітлераўскі астрог. Адзіночка. 1943 год».

— А што да маладосці, — працягваў ён, — дык і ў 86 можна быць душой маладым. Мне ж сустракаліся і 16-гадовыя дзядкі.

Ён цешыцца з таго, што дачакаўся свабоды, што не прадаўся ні за маркі, ні за рублі, што заўсёды быў самім сабой — Сяргеем Новікам-Пеюном. Гэтую зямлю ён мілаваў, як мог. І прысвяціў ёй свае песні.

Вацлаў МАЦКЕВІЧ.

# СВАЕ ЛЮДЗІ Ў НЬЮ-ЙОРКСКАЙ ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

## ЧАСТКА ФУНДАМЕНТАЛЬНАЯ

Яшчэ са школьных гадоў я любіла хадзіць у чытальную залу бібліятэкі. У асноўным з-за таго, што кватэрка ў нас была малюсенькая: няма дзе прыткнуцца, каб пачытаць, падумаць. Пазней, ужо рыхтуючыся да паступлення ва ўніверсітэт, адчула патрэбу ў спецыяльнай літаратуры, якая была ў фондах Дзяржаўнай бібліятэкі. Але тагачасныя парадкі дазвалялі толькі студэнтам наведваць яе. У студэнцкія гады ўжо на законных правах карысталася неабходнай літаратурай. Штудзіравала дзесяткі кніжак па розных навуках, спісваючы цэлыя сшыткі патрэбным матэрыялам. На падрыхтоўку навуковай работы ішлі месяцы карпатлівай працы. Цяпер з жалем думаю аб тым часе, большая частка якога была аддадзена на перапісванне, выпіскі, на пошук літаратуры, а значыць — непрадукцыйна. Іншым разам, бывае, прысніцца Нью-Йоркская бібліятэка, па якой мы з Зорай Кіпель зрабілі экскурсію: камп'ютэры, пішучыя машынкі, розная капіравальная тэхніка... Для нас — мара. А для любога амерыканца—рэальнасць.

Нягледзячы на свой паважны ўзрост — бібліятэка была заснавана ў 1895 годзе шляхам аб'яднання прыватных кніжных збораў Джана Якоба Астора, Джэймса Ленокса і Самюэля Джонса Цільдэна,—яна адна з самых найсучасных у свеце. Свае кнігі багатыя нью-йоркцы без грошай перадалі гораду з адной умовай, што мясцовыя ўлады пабудуюць прыстойны будынак для бібліятэкі, фондамі якой зможа бясплатна карыстацца кожны, хто пажадае. Горад Нью-Йорк даў згоду пабудаваць і падтрымліваць Цэнтральную навуковую бібліятэку на 5-й авеню — 42-й стрыт. У 1901 годзе 11 іншых самастойных бібліятэк увайшлі ў склад Нью-Йоркскай публічнай.

Сёння гэтая бібліятэка — прыватная карпарацыя, якая каардынуе працу 4 даследчых і 82 галіновых бібліятэк. У савет яе папячыцеляў уваходзяць 42 чалавекі, якія разам з яе прэзідэнтам і ажыццяўляюць кіраўніцтва гэтым гігантам.

Бібліятэка перажывае росквіт. Яна захапляе прыгажосцю сваёй архітэктуры і аздобай унутраных інтэр'ераў, радуе наведвальнікаў зручнасцю, суперсучаснай тэхнікай, якая дапамагае авалодваць багаццямі навукі і культуры. Звесткі пра новую літаратуру цяпер чытач шукае на камп'ютэрах. А старая па ўсіх галінах сабрана ў 800 тамах каталогаў.

Славянскі аддзел, у якім працуе Зора Кіпель, мае найбольшы ў Амерыцы беларускі фонд. Канешне ж, не таму, што бібліятэка праяўляе нейкую асаблівую цікаўнасць да Беларусі. А таму, што вельмі зацікаўленым спецыялістам - бібліятэказнаўцам тут з'явілася наша суайчынніца. (Трэба заўважыць, што беларускія аддзелы ёсць і ў бібліятэках Клііўленда, Чыкага, Лос-Анджэлеса, Дэтройта, а таксама ў іншых бібліятэках Нью-Йорка, у Калумбійскім універсітэце, у Морганаўскай бібліятэцы і г. д.).

...Зора Кіпель дае мне магчымасць пахадзіць сярод стэлажоў і паглядзець, якія беларускія выданні яны маюць. А маюць многа. Больш за 20 тысяч беларускіх кніг, а таксама перыёдыка — як афіцыйная, так і нефармальная. Ёсць поўны збор «Летапісу беларускага друку» (ад 1925 года), каля 80 тамоў, першыя выданні Купалы, Коласа, Бядулі, Багдановіча, поўны камплект «Нашай нівы», розныя энцыклапедыі, нават асобныя старонкі са Скарынаўскай Бібліі 1518 года, а таксама беларускія выданні, што выходзяць на Беласточчыне. Карацей, цікаўнаму чалавеку ўся гэта літаратура дасць даволі поўнае ўяўленне і пра беларускі народ, і пра яго гісторыю.

— Беларускія кнігі пачалі прыходзіць у гэту бібліятэку ў канцы XIX стагоддзя, — кажа Зора Кіпель. —Але найбольшы прыток адбыўся ў 20-х гадах нашага стагоддзя, калі быў завязаны кнігаабмен з Інбелкультам. Да 1940-га года кнігі дастаўляліся рэгулярна. З пачаткам вайны ўсё перарвалася. У 50—60-х гадах спарадычна бывалі паступленні, і толькі з 70-х гадоў зноў пачаліся стабільныя кантакты. Цяпер мы маем усю беларусіку ў абмен на выданні па-ангельску. Шырокія сувязі даюць нам магчымасць набываць з прыватных бібліятэк бягучыя выданні, а таксама і старыя. На жаль, Беларусь страціла многія каштоўныя выданні, бальшавікі распусцілі найбольшыя бібліятэкі яшчэ да вайны, прадаючы скарбы беларускага народа за мяжу. Палітыка продажу мастацкіх каштоўнасцей рэвалюцыйным пралетарыятам нанесла непапраўную шкоду нашай культуры.

Нягледзячы на тое, што фонды славянскага аддзела пастаянна папаўняюцца і беларусікі становіцца больш і больш (некаторыя энтузіясты па ўласнай ініцыятыве дасылаюць сюды кнігі і газеты), для друкаванай прадукцыі тут створаны вельмі спрыяльныя ўмовы. Іх проста немагчыма параўнаць з тымі ўмовамі, у якіх знаходзяцца кнігі ў нашай Дзяржаўнай бібліятэцы, дзе ад вільгаці, а то і з-за аварыйных сітуацый часта гінуць і псуюцца рэдкія выданні і старадрукі.



У публічнай бібліятэцы ў Нью-Йорку ў кніжных сховішчах пастаянны мікраклімат, памяшканні праветрываюцца, усе кніжкі «апрануты» ў спецыяльныя кніжныя вокладкі. Для беларускіх кніжак ёсць тут спецыяльны беларускі знак *QM — для манаграфій і *QMA — для серыйных выданняў.

Хочацца сказаць і пра тыя беларускія кнігі, што выдаваліся сіламі эміграцыі. Самае непасрэднае дачыненне да іх мае муж Зоры Кіпель — Вітаўт, які ўзначальвае БІНіМ у Нью-Йорку. Менавіта гэты інстытут на працягу доўгіх гадоў выдаваў зборнікі публіцыстыкі, прозы і паэзіі аўтараў, якія жылі і тварылі на эміграцыі. Пра існаванне гэтых кніжак і самой эмігранцкай літаратуры на Беларусі мелі даволі цьмянае ўяўленне. Толькі ў апошнія гады беларускі чытач збольшага змог даведацца пра Н. Арсеньеву, М. Кавыля, У. Сядуру, М. Сяднёва, іншых.

Спадарыня Зора Кіпель таксама задзейнічана ў кнігавыдавецкай справе — апрацоўвае бібліяграфію творчасці пісьменнікаў-эмігрантаў і літаратуры пра іх. Вельмі элегантна і прафесійна аформленыя дзесяткі томікаў такіх кніжак, выдадзеных БІНіМам на грамадскія ахвяраванні нашай эміграцыі, пакуль ёсць толькі ў асобных грамадзян Беларусі, якія атрымалі іх у падарунак, але няма сумнення, што тыя кнігі зоймуць свае месцы і на паліцах галоўнай нацыянальнай і шматлікіх навуковых бібліятэк рэспублікі. Гэтага патрабуе і час, і гістарычная справядлівасць.

Гаворачы аб актыўнай культурніцкай і папулярызатарскай дзейнасці Зоры Кіпель, якая накіравана на пашырэнне сярод амерыканскага грамадства інфармацыі і ведаў пра Беларусь, нельга не адзначыць наладжвання ёю ў славянскім аддзеле бібліятэкі дзесяткі выставак, прысвечаных юбілеям Купалы, Коласа, Скарыны, тых ці іншых падзей у гісторыі Беларусі. Але, на жаль, як кажа Зора Кіпель, з арганізацыяй выставак стала цяпер больш складана. Калі раней яна магла па сваёй ініцыятыве нешта зрабіць, то цяпер іх тэматыку вызначае спецыяльная камісія бібліятэкі.

— Ці адчуваеце вы цяпер нейкую маральную палёгку ў рабоце, звязаную з палітычнымі зменамі ў Беларусі, з наладжваннем нармальных адносін Бацькаўшчыны са сваёй эміграцыяй у ЗША? — пытаюся я ў спадарыні Зоры.

— Несумненна. Мы адчуваем уплыў і з Беласточчыны, і з самой Беларусі. Гэта натхняе, прымушае яшчэ больш сканцэнтравацца на беларускіх справах. Як паказала жыццё, нашыя намаганні тут не былі дарэмныя, яны толькі на карысць Беларусі і яе народу. Асабіста я займаюся цяпер даследаваннем беларускай літаратуры XVI стагоддзя. Укладаем бібліяграфію беларускіх замежных перыядычных выданняў (беларусіка за межамі Беларусі), пішу падручнік на ангельскай мове «Гісторыя беларускай кнігі і друкарства», шмат іншых праектаў. Вялікі пласт работы звязаны з тым, што мы з Вітаўтам рэдагуем газету «Беларус».

Нашыя людзі, працуючы ў нацыянальнай бібліятэцы ў Нью-Йорку, здаецца мне, нямала карыснага зрабілі і для Амерыкі, і для сваёй Бацькаўшчыны. Хочацца спадзявацца, што на змену ім прыйдуць маладыя работнікі, якія таксама, як і спадары Кіпелі, нябачнымі ніцямі звязаны з Беларуссю, зацікаўлены ў тым, каб край гэты падняўся ва ўсёй сваёй веліччы і прыгажосці і каб увесь свет спазнаў створаныя яго народам духоўныя каштоўнасці.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Зора КІПЕЛЬ у славянскім аддзеле публічнай бібліятэкі.**

---

ВЫДАВЕЦТВА «Вышэйшая школа» выпусціла ў свет першы ў лексіграфічнай практыцы беларускай моваазнаўчай навукі тэматычны «Руска-беларускі размоўнік» (Мн., 1991), аўтарам і ўкладальнікам якога з'яўляецца прафесар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў, доктар філалагічных навук А. Міхневіч.

# ВУЧЫЦЦА ГАВАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

Як адзначаецца ў прадмове да кнігі, гэта дапаможнік агульнага тыпу, які ахоплівае неспецыялізаваныя тэмы паўсядзённага дыялога і адпаведную ім лексіку. Асноўная яго мэта — аказаць дапамогу рускамоўным жыхарам і гасцям рэспублікі, усім, хто імкнецца авалодаць мовай, набыць ці ўдасканаліць навыкі беларускай вусна-гутарковай і літаратурна-пісьмовай мовы. З гэтай мэтай у кнігу ўключаны моўныя матэрыялы з найбольш характэрных сфер зносін, у тым ліку размоўныя тэмы, жывыя канструкцыі і выразы, паўсядзённая бытавая лексіка, беларускія прыказкі, прымаўкі і выслоўі, супастаўляльныя лексіка-граматычныя заметкі, дыялогі з мастацкай літаратуры і фальклору.

Структура кнігі — стройная, лагічная. Усе размоўныя канструкцыі аб'яднаны ў адзінаццаць тэматычных раздзелаў.

У супастаўляльных заметках (нататках) вядзецца размова пра адметныя рысы беларускай мовы ў параўнанні з рускай. Пры гэтым, як падкрэслівае аўтар, чытанне іх не вымагае спецыяльных лінгвістычных ведаў. Яны грунтуюцца на багатым моўным матэрыяле, які дапаўняе і пашырае размоўныя тэмы. Мэта гэтых заметак—даць чытачу ўяўленне аб правілах беларускага вымаўлення, формазмяненні слоў і іх спалучальнасці.

У раздзеле аб літаратурных і фальклорных дыялогах шырока прадстаўлена жывая беларуская мова ва ўсёй разнастайнасці яе тэм, жанраў, сітуацый зносін субяседнікаў і ва ўсім багацці стылістыкі і экспрэсіі размоўнай стыхіі.

Надзвычай важнымі і актуальнымі з'яўляюцца пытанні адносін і стаўлення аўтара да формы і метадаў, самых прыёмаў і прынцыпаў моўнай перадачы адпаведных тэкстаў. Прымаючы пад увагу лексічнае багацце і сінтаксічную гібкасць абедзвюх моў, аўтар дапаможніка прыходзіць да адзіна правільных высноў адносна таго, што нельга і не трэба патрабаваць ад эквівалентных рэплік паслоўнага супадзення і лексіка-граматычнай тоеснасці іх тэкстаў. «Патрэбна вучыцца думаць і гаварыць па-беларуску, а не перакладаць у працэсе маўлення з рускай», — сцвярджае аўтар і працягвае:— Стыхія чалавечай мовы бязмежная. Таму аўтар не мог і не імкнуўся адлюстраваць у размоўніку ўсе магчымыя варыянты лексіка-сінтаксічнага афармлення думкі ў рускай і беларускай мовах. Фіксуюцца тыповыя звароты і найбольш характэрныя адрозненні паміж мовамі. Чытачу даецца магчымасць самому будаваць новыя канструкцыі, апіраючыся на звароты, прыведзеныя ў размоўніку».

**Аркадзь НАРКЕВІЧ.**

---

# З МАЛАДЫХ ДЫ Ў РАННІЯ

Удалай спробай маральна і матэрыяльна падтрымаць шматабяцаючых юных мастакоў, скульптараў, фатографаў і дызайнераў стала першае ў гісторыі горада Віцебска шоу, прысвечанае студэнцкім талентам.

«Арт-сесія», што адбылася ў Палацы культуры прафсаюзаў, уключыла ў сябе ўрачыстую прэзентацыю конкурснай выстаўкі творчых работ студэнтаў мастацка-графічнага факультэта педінстытута і будучых праекціроўшчыкаў з тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці. Абстаноўку свята стварыў спецыяльна запрошаны з Масквы авангардны балет «Фабрыка нацюрмортаў», а прызы (паўтары тысячы рублёў аўтарам лепшых твораў) зрабілі ўрачыстасць не толькі прыемнай, але і канструктыўнай.

# ПАШТОВЫ ШТЭМПЕЛЬ— АДБІТАК ГІСТОРЫІ

Пасля Кастрычніка 1917 года на тэрыторыі ўсёй Расіі пры савецкай уладзе паўсюдна выкарыстоўваліся паштовыя маркі і штэмпелі старога ўзору. І калі маркі да сярэдзіны 20-х гадоў былі зняты з паштовага абарачэння, то штэмпелі старога ўзору былі ў карыстанні амаль да 30-х гадоў. Асабліва гэта назіралася ў аддаленых паштовых канторах. У архіўных дакументах, у калекцыях, вывучаных мною, сустракаліся канверты і паштовыя карткі з адбіткамі штэмпеляў старога ўзору Чэрыкава (1926 год), Шацка (1927), Рудзенска (1926), Мінска (1927), Віцебска (1928, 1930), Лоева, Жлобіна, Гомеля (1929—1930 гады). У той жа час гэтыя паштовыя канторы пачалі выкарыстоўваць новыя штэмпелі, што адпавядалі праводзімай у той час нацыянальнай палітыцы, гэта значыць штэмпелі былі двухмоўнымі. Савецкія паштовыя штэмпелі і па сённяшні дзень засталіся такімі. Аднак новыя двухмоўныя штэмпелі 20—30-х гадоў адрозніваліся ад сённяшніх не толькі малюнкам, але і назвамі некаторых гарадоў Беларусі. Тагачаснае гучанне адрознівалася ад сённяшняга. Паштовыя штэмпелі захавалі яго нам.

Назва сталіцы БССР у беларускім гучанні—«Менск» была зацверджана Канстытуцыяй БССР 1927 года, гэтая ж юрыдычная назва была замацавана і ў Канстытуцыі 1938 года. Аднак выкарыстоўвалася гэтая назва крыху раней (я маю на ўвазе толькі савецкі перыяд) на тых жа паштовых штэмпелях, мне не ўдалося выявіць якіх-небудзь архіўных дакументаў: загадаў, інструкцый, распараджэнняў аб уводзе ў дзеянне на тэрыторыі БССР двухмоўных беларуска-рускіх паштовых штэмпеляў. Першы вядомы мне штэмпель з назвай «Менск» быў прыменены ўжо ў 1925 годзе ў паштовым аддзяленні Заходняга вакзала Мінска. У яго малюнку па-руску чытаем «МИНСК Ж.Д.П.Т.О. ЗАП.В.», што расшыфроўваецца як «чыгуначнае паштова-тэлеграфнае аддзяленне Заходняга вакзала», а па-беларуску толькі назва горада «МЕНСК». Больш раннія паштовыя штэмпелі сённяшняга Мінска з назвай «Менск» мне невядомы. З 1926 года паштовыя аддзяленні Мінска—а іх тады было ўсяго некалькі—ужывалі штэмпелі з назвай «Менск». Па малюнку такіх штэмпеляў было некалькі. Яны вызначаліся рознымі варыянтамі надпісаў: «Минск Белор.—Менск», «Минск — Менск», «Менск БССР — Минск».

У 1938 годзе былі ўведзены паштовыя штэмпелі з новым малюнкам, аднолькавыя і абавязковыя для ўсяго СССР. У малюнак гэтых штэмпеляў была ўведзена абрэвіятура «СССР» і малюнак пяціканцовай зоркі з сярпом і молатам. Усе штэмпелі былі двухмоўнымі. Меліся такія і на мінскай пошце. У 1939 годзе 2-я сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла рашэнне, а Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зацвердзіў гэтае рашэнне—замяніць назву сталіцы рэспублікі «Менск» на «Минск». Рашэнне гэта не паўплывала на пошту, аж да чэрвеня 1941 года ўсе паштовыя аддзяленні Мінска прымянялі для гашэння карэспандэнцыі штэмпелі з назвай «Менск». Мала таго, міжнародны аддзел мінскай пошты ў красавіку 1941 года прымяняў паштовы штэмпель з назвай «Менск» узору 20-х гадоў. У маёй калекцыі захоўваецца пісьмо ваеннапалоннага польскага салдата, накіраванае з Германіі ў Тамашоўку каля Брэста, на якім стаіць адбітак паштовага штэмпеля 20-х гадоў. Вядома карэспандэнцыя пасляваеннага перыяду, на якой маюцца адбіткі штэмпеля даваеннага ўзору з назвай «Менск». Аднак перыяд прымянення такіх штэмпеляў быў нядоўгім—толькі 1944—1945 гады.

Трэба таксама адзначыць, што з канца 30-х гадоў нароўні з рускамоўнымі штэмпелямі для заказных пісьмаў прымяняліся такія ж штэмпелі на беларускай мове з назвай сталіцы рэспублікі «Менск». Цікавасць для філатэлістаў і, несумненна, гісторыкаў уяўляюць фірменныя канверты розных перадваенных дзяржаўных устаноў, на якіх акрамя паштовых штэмпеляў маюцца надпісы на чатырох мовах—беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай.

Выклікаюць цікавасць паштовыя штэмпелі 20—30-х гадоў і іншых беларускіх паштовых аддзяленняў розных гарадоў. У нашы дні не ўсім ужо вядома, а многія нават не здагадваюцца, што ў тыя далёкія перадваенныя гады назвы многіх беларускіх гарадоў гучалі зусім па-іншаму.

Напрыклад, на штэмпелях 20—30-х гадоў горада Оршы па-беларуску напісана «Ворша». Аршанская пошта прымяняла таксама штэмпель для заказных пісьмаў з надпісам «Ворша». На паштовых штэмпелях Слуцка 1929 года ўказана тэрытарыяльная прыналежнасць горада: «Слуцк Бобр.» і «Бабруйск. акр.»—гэта значыць Бабруйская акруга. Па тагачаснаму тэрытарыяльна - адміністрацыйнаму дзяленню Беларусі ў рэспубліцы налічвалася 8 акруг (у 1925—10, у 1929—12). Але штэмпелі старажытнага Слуцка таго перыяду маюць цікавасць яшчэ і таму, што беларуская назва горада гучыць «Слуцак». Трэба адзначыць, што штэмпелі Полацка таго ж часу маюць беларускае напісанне «Полацк», а не «Полацак».

Вось яшчэ некалькі прыкладаў штэмпеляў таго часу, на якіх назвы нашых гарадоў, больш дакладна, гучанне назвы адрозніваецца ад сённяшняга. У 1926 годзе на штэмпелях Рагачова быў надпіс «Рагачэў», штэмпелі 1937 года даюць назву «Рагачоў», а пасёлка Узляны—«Вузляны». Штэмпелі Талачына прымяняліся двух відаў: у 1926 годзе з надпісам «Талачын Бел.—Талачын» і ў 1929 годзе «Толочин Орш. окр.—Талачын». Цікавыя штэмпелі Магілёва таго часу. Двухмоўныя штэмпелі 1929 года даюць нам рознае напісанне беларускай назвы горада. Магчыма, то быў перыяд, калі не ўстанавілі дакладна, як па-беларуску гучыць назва горада—«Магілёў» ці «Могілеў». І гэта няведанне адлюстравана на адбітках штэмпеляў таго часу. Сёння на паштовых штэмпелях горада, які раскінуўся на рацэ Бярэзіне, напісана «Беразіно», у 1926 годзе ж руская назва гучала як «Березна», беларуская — «Бярэзіна».

На жаль, мне невядомы якія-небудзь дзяржаўныя пастановы аб уводзе ці зняцці з абарачэння вышэйназваных паштовых штэмпеляў, таму я не магу назваць дакладных дат іх прымянення.

**Леў КОЛАСАЎ.**




# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**САЛЕЙ Канстанцін Цімафеевіч** шукае стрыечнага брата **КІСЛАГА Сцяпана Фёдаравіча** і стрыечных сясцёр **КІСЛУЮ Настассю Фёдараўну** і **КІСЛУЮ Вераніку Фёдараўну.** Іхні бацька **КІСЛЫ Фёдар** перад Вялікай Айчыннай вайной жыў у Гродзенскай вобласці, Мастоўскім р-не, в. Заполле. Мяркуецца, што пасля эміграцыі з СССР ён жыў у Канадзе, г. Вініпегу.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра сям'ю **КІСЛАГА Фёдара,** просім адгукнуцца на адрас: **Рэспубліка Беларусь, 231602, Гродзенская вобласць, Мастоўскі р-н, п/а Дубно, в. Заполле.**

**САЛЕЮ Канстанціну Цімафеевічу.**



**НА ЗДЫМКУ: КІСЛЫ Сцяпан Фёдаравіч у дзяцінстве.**

**КАРКАШУК Вольга Андрэеўна** шукае свайго дзядзьку **КАРКАШУКА Васіля Міхайлавіча,** які ў 20-х гадах выехаў у ЗША з вёскі Кустовічы Гарадзецкага сельсавета Антопальскага раёна Брэсцкай вобласці. Жыў у Чыкага, меў сям'ю.

Просьба да ўсіх, хто што-небудзь ведае пра **Васіля КАРКАШУКА,** яго дзяцей, стрыечных братоў і сясцёр **Вольгі КАРКАШУК,** адгукнуцца. Пісаць на адрас рэдакцыі альбо:

**Рэспубліка Беларусь, 225320, г. Баранавічы, вул. Кірава, д. 42, кв. 50.**

**МАРОЗАВАЙ А. П.**

**НА ЗДЫМКУ: КАРКАШУК Васіль Міхайлавіч з жонкай (шлюбнае фота).**



## *СПОРТ*

КУЛЯВАЯ СТРАЛЬБА. Алімпійскі тыдзень завяршыўся ў сталіцы маючых адбыцца летніх Гульняў — Барселоне. За зборную СНД выступаў чэмпіён Еўропы Аляксандр Васільеў з Брэста. На гэты раз беларускі стралок заняў другое месца.

Тут жа, у Барселоне, адбылося пасяджэнне адміністрацыйнага савета Міжнароднага кулявога саюза, на якім станоўча вырашана пытанне аб прыёме кулявога саюза Беларусі ў гэту міжнародную арганізацыю.

МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА. У горадзе Адэсе завяршылася першынство СНД. Мінчанка Ларыса Лук'яненка заняла трэцяе месца.

Гэта не першы поспех беларускай гімнасткі. Ужо цяпер можна з упэўненасцю сцвярджаць, што яна «забраніравала» сабе месца ў зборнай камандзе СНД, якая выступіць на Алімпіядзе ў Барселоне. Добрыя шанцы паехаць на Гульні мае і сяброўка Ларысы Алена Шаматульская, якая ў Адэсе замкнула шасцёрку мацнейшых. Застаецца чакаць канчатковага рашэння трэнерскага савета былога Саюза.

ХАКЕЙ. Прыемная навіна прыйшла з Прагі. На чарговым кангрэсе Міжнароднай федэрацыі лёдавага хакея (НІХФ) было заяўлена аб прыняцці Беларусі ў яе члены. Цяпер наша рэспубліка стане рыхтавацца да першынства свету ў групе «С».

ФУТБОЛ. Як вядома, усе рэспублікі былога Саюза праводзяць свае нацыянальныя першынствы. На чэмпіянаце Беларусі ўпэўненае лідэрства захапілі дынамаўцы Мінска.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Зак. 944.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12